Ідзе падпіска на II квартал 2013 года. Заставайцеся з «Народнай Воляй»!

№ 21 (3762)

15 сакавіка 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля



АКТУАЛИИ

*Светлана КАЛИНКИНА*



# Аттракцион невиданной щедрости

Если внимательно читать сухие официальные документы, то можно узнать много интересного. Например, недавно была обнародована информация об аттракционе невиданной щедрости, устроенном белорусским государством. Правда, не для нас, не для белорусов.

Белстат сообщил, что по итогам 2012 года в страны ЕС было поставлено 34,8 тысячи белорусских стиральных машин, 1 тысяча телевизоров, 736 пылесосов. В деньгах это составило: 5,7 миллиона долларов — за стиральные машины, 74,9 тысячи долларов — за телевизоры, 90,1 тысячи — за пылесосы. Цифры, в общем, не впечатляющие. Но если посчитать, сколько стоила каждая единица бытовой техники белорусского производства, то понимаешь, что читаешь настоящую сказку про наши цены: чуть больше 160 долларов — стиральная машина, 75 долларов — телевизор, 122 доллара — пылесос...

Мы, в Беларуси, можем купить белорусский телевизор за 600—650 тысяч рублей? Вы видели где-нибудь такие ценники?

А почему? Почему нам не продают стиральные машины за 1 миллион 400 тысяч или пылесосы — по миллиону. В конце концов, мы не богаче европейцев, а намного, в разы, беднее. Для большинства белорусских семей купить стиральную машину — это событие, на телевизор надо брать кредит, пылесос — просто роскошь. Тогда почему белорусское государство позаботилось о европейцах, но не позаботилось о нас?

Еще один интересный документ представило Министерство экономики. Называется — "Прогноз по балансовым показателям развития отечественной экономики в 2013 году". "Любовь и забота" родного производителя о нас, белорусах, там описана столь же красноречиво. Потому что тоже не словами, а цифрами.

**Телевизоры**. Цена для белорусского рынка — 376,1 доллара. Цена при поставках на экспорт (тут включены не только страны ЕС, но весь экспорт) — 315 долларов.

**Ковры**. Ожидается, что на белорусском рынке отпускная цена составит 5,8 доллара за квадратный метр, на экспорт — 4,6 доллара.

**Мясо и мясные продукты**. Для нас — 3895 долларов за тонну, на экспорт — 3810 долларов.

**Масло**. Для нас — 5392 доллара за тонну, на экспорт — 3600.

**Растительное масло**. По этой позиции Минэкономики запланировало побить все рекорды любви к собственному народу. За рубеж растительное масло мы будем поставлять по 174,2 доллара за тонну, для Беларуси — по 1081 (!).

Белорусские яйца, алкоголь, стиральные машины, пылесосы... По очень многим позициям экспортные цены ниже, чем при поставках на свой родной белорусский рынок. Причем на некоторые товары цены изначально закладываются как планово-убыточные. Например, если вы прочитаете в какой-нибудь газете, что Беларусь поставила, к примеру, на Кубу холодильников на 1 миллион долларов, не спешите кричать "Ура!". Потому что самому заводу эти холодильники обошлись в 1 миллион 275 тысяч долларов. То есть на такой торговле мы не только не зарабатываем, а, наоборот, банкротимся. Мы либо идиоты, либо такой широкой души люди, что готовы сами доплачивать тем зарубежным друзьям, которые купят белорусский товар.

Впрочем, не так. Наши власти не идиоты. За то, чтобы в других странах белорусский товар оставался дешевым, доплачиваем мы с вами. А потом в телерепортажах нам покажут, какой популярностью пользуются белорусские стенды на каких-нибудь российских ярмарках. "Белорусский товар любят во всем мире! Этим надо гордиться!" — бодро доложат народу штатные идеологи.

А чем гордиться? Тем, что в Венесуэле или Иране белорусские телевизоры стоят дешевле, чем в Беларуси?.. Тем, что европейцы на свою месячную зарплату могут купить 10 белорусских стиральных машин, а большинство белорусов — ни одной?.. Тем, что белорусское государство радует низкими ценами далеких кубинцев за счет того, что переплачиваем мы с вами?

Конечно, нас воспитывали интернационалистами, но все-таки своя судьба должна волновать больше, чем судьба жителей далекой Венесуэлы, Сирии, Боливии, Вьетнама, Ирана и далее по списку. О нас, а не о бедных венесуэльцах, должно заботиться наше правительство. Оно должно заботиться не о том, чтобы каждый россиянин мог купить белорусскую колбасу, а о том, чтобы ее вдоволь мог покупать и есть каждый белорус. Однако пока под разговоры о большой, невиданной, беспрецедентной заботе со стороны государства с белорусов просто сдирают три шкуры. А вот аттракционы невиданной щедрости — они не для нас, они на экспорт.

БЕЛАРУСЬ—РАСІЯ

## *Нафтавыя перамовы выйгралі?*

*Беларусь і Расія ўзгаднілі аб'ём паставак нафты на другі квартал у памеры 5,75 млн тон.*

Прычым, як паведаміла БелаПАН прэс-сакратар расійскага віцэ-прэм'ера Алія Самігуліна, "аб'ём паставак вызначаўся з улікам чаканага беларускім бокам гадавога аб'ёму 23 млн тон".

Ці азначае гэта, што нафтавыя перамовы Беларусь выйграла? Калі так, то на якіх умовах? Расійскі бок ужо даўно проста так нічога Беларусі не дае.

Як вядома, перамовы аб умовах пастаўкі расійскай нафты ў Беларусь вядуцца з кастрычніка 2012 года. Беларусь зацікаўлена ў імпарце 23 млн тон нафты, у той час як Расія заяўляе пра гатоўнасць паставіць 18,5 млн тон. Чакаецца, што кропка ў перамовах будзе пастаўлена сёння. Плануецца, што нафтавы баланс на 2013 год стане адной з ключавых тэм падчас сустрэчы Уладзіміра Пуціна і Аляксандра Лукашэнкі, якая павінна адбыцца сёння падчас пасяджэння Вышэйшага дзяржсавета Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі ў Санкт-Пецярбургу.

ПРЫНЦЫП

## *Еўрапейскі банк дзяржсектар Беларусі фінансаваць не будзе*

*Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця паведаміў аб сваёй новай стратэгіі ў дачыненні да Беларусі.*

Новая трохгадовая стратэгія пацвярджае гатоўнасць банка *"садзейнічаць дзевяці з паловай мільёнам жыхароў краіны шляхам рэалізацыі праектаў, якія спрыяюць развіццю прыватнага сектара і ахове навакольнага асяроддзя".* Пры гэтым ЕБРР не будзе наўпрост фінансаваць дзяржаву.

*"Магчымасць павелічэння аб'ёму дапамогі ЕБРР звыш заяўленага ў новай стратэгіі будзе залежаць ад дзеянняў беларускіх улад",* — тлумачаць у банку.

Зараз найбольшую частку партфеля ЕБРР у Беларусі складаюць праекты ў прыватным сектары краіны. Далейшае развіццё гэтага сектара, адзначаюць у банку, застанецца прыярытэтнай задачай банка на наступныя тры гады, бо большасць насельніцтва краіны па-ранейшаму занята ў дзяржаўным сектары, на долю якога прыпадае больш як 70% ВУП.

ДАРЭЧЫ

## *Самыя вядомыя праекты*

*Летась ЕБРР інвеставаў у беларускую эканоміку 185 млн еўра, з якіх 107 млн былі ўкладзены ў 12 карпаратыўных праектаў, а 78 млн прыпалі на гандлёвае фінансаванне.*

Самы буйны леташні праект ЕБРР прыпадае на сферу аховы навакольнага асяроддзя. Ён прадугледжвае рэканструкцыю ачышчальных збудаванняў у трох гарадах Беларусі.

Сёлета банк пачаў рэалізацыю ў Беларусі праграмы фінансавання інвестыцый у павышэнне энергаэфектыўнасці і развіццё аднаўляльных крыніц энергіі аб'ёмам 50 млн долараў ЗША. Акрамя таго, у банку падкрэсліваюць, што фінансавую дапамогу атрымаюць прыватныя кампаніі, якія працуюць ва ўсіх галінах эканомікі, аднак асаблівая ўвага будзе надавацца прамысловай вытворчасці і перапрацоўцы сельскагаспадарчай прадукцыі.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

АФІЦЫЙНА

## *Нацбанк ужо скараціў свой штат*

— Да таго часу, як пачалі скарачаць чыноўнікаў, мы ўжо цалкам скараціліся. На 42%, — заявіла ўчора падчас "Прамой лініі" старшыня Нацбанка Надзея Ермакова. — Мы прыбралі частку функцый і перадалі іх камерцыйным банкам. Скарацілі кіроўцаў, інкасатараў, касіраў, прыбіральшчыц, таксама скарачэнне датычылася часткі супрацоўнікаў, якія адносіліся да сферы дзяржслужбы".

Па словах Ермаковай, і заробкі ў супрацоўнікаў Нацбанка не надта высокія, у два разы меншыя, чым у іншых банках краіны. Ермакова адзначыла, што сярэдні заробак супрацоўнікаў Нацыянальнага банка — 6 мільёнаў рублёў.

БЛІЦ

*У мільярдным Кітаі змяніліся ўладныя вярхі. Прычым без бунтаў і рэвалюцый. Самі кітайскія кіраўнікі ў свой час прызналі, што больш за дзесяць год адны і тыя людзі не могуць займаць першыя пасады ў краіне, бо гэта не давядзе да дабра ні іх саміх, ні народ.*

*Кіраўніцтва Кітая кожныя дзесяць год сыходзіць у адстаўку само, добраахвотна.*

# Ці магчыма такое ў нас?

### *Алесь САМЕЦ, будаўнік (Карэлічы):*

— Ніякіх перамен, ніякай замены аўтарытарнай сістэмы ў нас на Беларусі не відаць і блізка. І іх не будзе, па ўсім, яшчэ вельмі доўга... Чаму? Па вялікім рахунку, тормаз усяму не столькі Лукашэнка, колькі ўсе мы разам — беларусы... Тут некаторыя — апазіцыя, а яшчэ больш лукашэнкаўская прапаганда — трубяць пра годнасць беларускай нацыі, пра самастойнасць, пра незалежнасць і ўсё такое. Але ў чым тое нацыянальнае, дзе яна — нацыя?.. Каляровыя нацыянальныя строі, "Лявоніха" за бугром — гэта яшчэ не нацыя, а толькі абгортка-падманка, экспартная дурылка для лёгкаверных, маўляў, паглядзіце — усё ў нас, як у людзей...

Людзі не прасякнуты духам беларускасці, у большасці з іх абсалютна атрафіраваны нацыянальныя пачуцці, ніякіх самаідэнтыфікацыйных арыенціраў, а адсюль і ніякіх памкненняў да перамен у грамадскім і палітычным жыцці. Пераважная большасць жыве па прынцыпе "абы горш не было"... Пры гэтым многія і не ўсведамляюць, што пятля на шыі зацягваецца, што далей беспрасвецце...

Канечне, страхотная і прымітыўная прапаганда робіць сваю агідную справу — вы толькі паслухайце, што ліецца з рэпрадуктараў, з тэлеэкрана... Але гэта не апраўданне: трубілі ў свой час і на поўдні Афрыкі, і ў Польшчы, і ў краінах Балтыі... Ды толькі там не спалі ў шапку ні простыя людзі, ні эліта — дзейнічалі.

А беларусы, на жаль, абыякавыя да свайго лёсу. Таму і няма ў нас грамадзянскай супольнасці, энергія мас — на нулі... Скажаце — песіміст, паняверак, змяшаў усе фарбы ў чорны колер?.. Ды не, мае харошыя, гэта і ёсць праўда — горкая, але праўда...

### *Аляксандр ШАБЛЫКА, прадпрымальнік (г.Любань):*

— Кітайцы — не беларусы, канечне... Хаця, калі прааналізаваць, ёсць у нас і нешта агульнае — пакланенне бажкам. Там — камуністычнаму ідалу ў выглядзе зашпіленай на ўсе гузікі кампартыі, тут — страшна сказаць — усяго аднаму чалавеку. Цяпер яшчэ пра падабенства і рознасць... У Кітаі было папярэджальнае выступленне моладзі на Цянь Ань Мэнь, у нас — свая Плошча... Розніца ў тым, што мудрыя кітайцы зрабілі правільную выснову — пайшлі па шляху рэфармавання, марудным, але правільным. Таму і ратацыя палітычных лідараў стала там неабходнасцю. Калі хочаце, гэта прафілактычнае выпусканне пары з перагрэтага катла.

У нас жа ўсё з дакладнасцю да наадварот — ціхая незадаволенасць (як брага ў самагонным апараце) награецца пакрысе. І ўсё больш на кухнях. Пытанне ў тым, калі дойдзе да кропкі кіпення, — агеньчык дужа слабы... І потым, беларусы — не бунтарскі народ, усё чакаюць халявы, спадзяюцца, што нехта злітуецца над імі, прыйдзе і падорыць тую дэмакратыю, свабоду, роўнасць перад законам, незалежнасць судовай сістэмы і ўсё астатняе... Халявы больш не будзе...

### *Людміла БАРАНОЎСКАЯ, уладальніца аграсядзібы «Ля дубочка» (Мінскі раён, вёска Навінка):*

— Можна падумаць, што Лукашэнка — беларускі Бог... Але нават кітайцы дапялі, што Бог толькі на небе, што толькі Ён вечны, а на зямлі ўсё зменлівае. Тут жа хочуць удзяўбці ў галовы, што Лукашэнка — самы мудры, самы разумны, самы энергічны. І таму, маўляў, няма яму замены... Да ўсяго яшчэ і "ў дошку" свой для народа.

Не ведаю, як астатнія, але я з розуму не з'ехала, тое-сёе кумекаю. Карацей, гэта не нармальна, калі пры ўладзе адзін і той чалавек без абмежаванняў у тэрміне. Гэта проста дзікунства, несусветная анамалія... Безумоўна, калі-небудзь усё памяняецца, але не варта думаць, што хутка. Сёння ў нас большасці людзей на ўсё, як кажуць, напляваць. А чаму? Зняверыліся. Ці мо думаюць, што ў нашага хопіць Папскай мудрасці?..

### *Мікола ЧАРНЯЎСКІ, дзіцячы паэт, лаўрэат літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра:*

— Чалавек — сацыяльная істота, але ж неад'емная частка Яе вялікасці Прыроды. І гэтым усё сказана. Што я маю на ўвазе? У прыродзе ўсё мяняецца — ці цыклічна, ці паслядоўна, але працэс абнаўлення няспынны. Гэтак і ў грамадстве павінна быць, і так ёсць паўсюль. Ну не заставацца ж увесь час у мінулым — закасцянелым, забранзавелым. Колькі можна?!

Вазьмі сабе і Кітай... На маёй памяці той культ Мао, культурная рэвалюцыя, Цянь Ань Мэнь... Усё было. Але ж выйшлі на прасцяг. Моўчкі, але з непагрэшнасцю вялікага кормчага пакончана. Ратацыя павінна быць ва ўсім — гэта натуральны працэс для любой грамадска-палітычнай сістэмы, як яе ні назаві... Не думаю, што мы горшыя за іншых ці там пустадомкі. Проста ўсяму свой час...

### *Сяргей ОСІПАЎ, рэжысёр (Мінск):*

— Хачу быць аптымістам, але не атрымліваецца... І не таму, што па характары, па складзе розуму нейкі кансерватар. Не, зусім наадварот: хочацца і перамен у грамадскім жыцці, хочацца прасветленасці ў тварах і вачах людзей, хочацца... Але не можацца. Чаму так? Праблема ў нас саміх... Працей за ўсё ўскласці віну на некага, але той "нехта" — кожны з нас у асобку. А ўсе разам — мы не грамада, у нас поўная адсутнасць грамадзянскай пазіцыі, нацыянальнага гонару ў лепшым разуменні гэтага слова.

Тое, што бачыцца з экранаў, не пераконвае, не ўзрушвае, не робіць нас годнымі. Чаму? Дробнатэм'е, татальнае "замыльванне" вострых пытанняў надзённасці, спаўзанне ў прапагандысцкую багну. Многія былыя артысты, літаратары ўжо з макаўкай у той твані. Не саромеюцца. Так званая багема памяняла сваё існае прызначэнне. Цяпер "залатыя цялец" — перадусім... Так што няма чаго наракаць на тое, што не нараджаюцца шэдэўры, не генерыруюцца ідэі, не абуджаецца соннае царства... Хутчэй Кітай перажыве другую "культурную рэвалюцыю", чым у нас наступяць хоць якія перамены...

### *Анатоль ПАЎЛАЎ, старшыня Мінскай арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі:*

— Ці хутка памяняецца ў нас палітычны курс, зменіцца ўлада? Адказ адмоўны... У такіх варунках, якія існуюць на цяперашні момант, ніякіх "пасажаў" чакаць не выпадае.

Усе разумеюць, што так жыць нельга, але — што рабіць? Спракавечнае пытанне яшчэ ад часоў Чарнышэўскага, з гістарычнай тоўшчы Расійскай імперыі... Аж бач, перакачавала і ў XXI стагоддзе, на ўскраек тае самае імперыі... Беларусь ужо як быццам і самастойная дзяржава, а пытанне ранейшае — што рабіць?.. Народ маўчыць, іншадумцы-палітыкі прыдушаны, дзяржаўная прапагандысцкая машынка грукоча на ўсю моц... Значыцца, трэба разносіць слова Праўды, казаць Праўду і адстойваць Праўду... Асветніцтва, адукацыя, праўдзівая інфармацыя — грунт будучых перамен.

Думаю, кітайскі досвед у сэнсе ратацыі палітычнай ўладнай эліты не варта браць пад капірку. Там партыя-монстр, велізарная дзяржава з пэўнымі традыцыямі, тут — зусім іншы расклад... Зыходзіць трэба з рэальнай карціны, якая тут і зараз...

ПЕЧАЛЬНЫЕ РАЗМЫШЛЕНИЯ

# Скромный праздник

*Традиционно в современных государствах отмечаются три важнейших государственных праздника: День независимости, День конституции и День флага.*

*А теперь назовите даты этих праздников в белорусском государстве. Если назвали все три даты, то поздравляю. Однако таких продвинутых граждан, по всей видимости, будет немного. Большинство затруднится с ответом. Между тем один из таких праздников наступил.*

## 15 марта — День Конституции

Именно в этот день парламент Беларуси — Верховный Совет 12-го созыва — после трех с лишним лет непрерывной работы принял Конституцию Республики Беларусь. Подпись под этим документом поставил тогдашний председатель парламента (он же — глава государства) М.И.Гриб.

Согласно Закону "О порядке вступления в силу Конституции Республики Беларусь", принятому в тот же день, Конституция подлежала вступлению в силу со дня ее опубликования (кроме отдельных положений). Этот день — 30 марта 1994 года.

Принятие Конституции 1994 года ознаменовало собой закрепление независимости белорусского государства, установление новой системы органов государственной власти, в том числе должности президента, провозглашение основных прав, свобод и обязанностей граждан.

Республика Беларусь объявлялась демократическим социальным правовым государством (ст.1). Это означает, что государство должно служить народу и выражать его волю. Оно призвано обеспечить условия для свободного и достойного развития личности (ст.2). Все государственные органы и должностные лица обязаны действовать "в рамках Конституции и принятых в соответствии с ней законов" (ст.7).

В иерархии правовых актов Конституции отводилось высшее место. Все иные правовые акты должны были издаваться на основе Конституции. Для осуществления конституционного контроля был учрежден специальный орган — Конституционный суд.

Казалось бы, все было сделано для счастливой жизни в Беларуси. Открывалась перспектива вступления в европейскую семью народов. Но весной-летом 1994 г. состоялись президентские выборы, и победил на них не тот кандидат, под которого готовилось президентское кресло.

В скором времени первого президента перестала устраивать Конституция, на верность которой он присягал. Вопреки воле парламента им был инициирован и проведен в мае 1995 года референдум по вопросам о смене государственной символики, о придании русскому языку статуса государственного и об интеграции с российским государством.

Дальше — больше. Захотелось президенту новых полномочий. И был им инициирован другой референдум в ноябре 1996 года по внесению изменений и дополнений в Конституцию, а также по ряду других вопросов. Решение о назначении референдума было пролоббировано президентской фракцией в парламенте. Воспротивился проведению такого референдума Конституционный суд, который принял решение о рекомендательном характере голосования по вопросу о внесении изменений и дополнений в Конституцию.

Однако никакие препятствия (даже голос "друзей" из России на ночном заседании 21—22 ноября 1996 г.) не остановили А.Г.Лукашенко. Заведомо срежиссированный референдум был проведен и, несмотря на многочисленные нарушения законодательства, признан состоявшимся.

Последствия этого сомнительного референдума для белорусского государства и общества оказались разрушительными. Парламент — Верховный Совет 13-го созыва — был распущен. Вынужден был прекратить свою деятельность Конституционный суд. Члены правительства, другие высшие должностные лица были назначены актами главы государства.

По новой редакции Конституции президент объявлялся главой государства с неограниченными полномочиями (ст.84 Конституции). Причем срок его полномочий исчислялся не со дня выборов по Конституции 1994 года, а *"со дня вступления в силу настоящей Конституции"* (ст.144).

Но как это согласуется с тем, что в Конституцию 1994 года вносились только изменения и дополнения? Почему не были проведены президентские выборы в 1999 году, на чем настаивал отстраненный от должности председатель Центризбиркома В.И.Гончар?

## Конституция или фикция?

Введение в действие новой редакции Конституции по итогам референдума 1996 года является, на мой взгляд, величайшим обманом со стороны нынешней власти. На самом деле это не поправки в Конституцию 1994 года, а новая "президентская" Конституция. Мы стали жить в другом государстве с единоличной властью.

Самое интересное, что новой Конституции не придается должного значения. День ее принятия (24 ноября 1996 года) не является праздником. Никто из государственных органов и должностных лиц не считает нужным исполнять ее положения.

Что имеем в остатке? Президентское право в виде декретов, указов, директив и негласных распоряжений. Не всегда президентские акты согласуются с нормами Конституции и законов, но это мало кого интересует, в том числе и Конституционный суд. В итоге создана дублирующая система органов и различных служб при главе государстве.

Конституция у нас "отдыхает", превратившись в музейный экспонат, лежащий на полке в кабинетах власти. Ее могут иногда открывать, например, когда выясняется, что она содержит какие-то ограничения на занятие должности главы государства. В то же время ее не хотят исполнять, если там записано, что человек, его права и свободы и гарантии их реализации являются высшей ценностью и целью общества и государства (ст.2), что народ — единственный источник государственной власти и носитель суверенитета Республики Беларусь (ст.3), что идеология не может устанавливаться в качестве обязательной для граждан (ст.4), что государственная власть осуществляется на основе разделения ее на законодательную, исполнительную и судебную (ст.6), что не допускается заключение международных договоров, которые противоречат Конституции (ст.8) и прочее.

По сути, Конституция превратилась в фикцию, которая не имеет юридической силы и признания со стороны как государства, так и общества. Она оказалась не "настоящей", а псевдоконституцией.

* * *

Получается, что у белорусских граждан отняли Конституцию вместе с их законными правами и свободами, оставив только обязанности перед государством. Это — печально, тоскливо и несправедливо. Поэтому и сам праздник — День Конституции — у нас скромный.

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**доктор юридических наук,**
**профессор,**
**заслуженный юрист**
**Республики Беларусь.**

РЕБУС

## *На словах и на деле*

*"По всей стране выстроена стройная система заготовки, переработки и реализации хлеба. Железно это должно быть государственным, никакой приватизации. То же самое касается мясомолочной промышленности. Нельзя разрушить этот железобетонный каркас, ибо будет, как у соседей".*

Так говорил Александр Лукашенко во время посещения 22 февраля этого года ОАО "Минский комбинат хлебопродуктов".

Не прошло и месяца...

На сайте Мингорисполкома появилось объявление о том, что торги по продаже Минского хлебозавода №1 назначены на 26 апреля. Начальная цена предприятия определена в 125.599.842.986 рублей (около 14,6 миллиона долларов).

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, доктор экономических наук, профессор*

# Эквилибристика по-белорусски

Ставка рефинансирования, которую Нацбанк "заморозил" с 12 сентября минувшего года, то есть в течение полугода держал на уровне 30%, наконец сдвинулась. Конечно, вниз. И достаточно серьезно — на 1,5%. Этого страстно желали многие. Директора государственных и частных предприятий, весь бизнес и та часть населения, которая вознамерилась брать серьезные кредиты на потребительские нужды.

Еще больше, наверное, хотели снижения ставки правительство и сам президент. Действительно, как это сложно было брать и возвращать кредиты на текущую деятельность предприятий, которые временами зашкаливали за 50 и более процентов годовых. Вдобавок еще и маржа между ставкой рефинансирования и кредитными банковскими процентами достигала 20 и более пунктов. А проценты по отдельным потребительским кредитам после включения в них всех комиссионных и прочих выплат вообще прыгнули за 100 годовых. Чтобы взять кредит на строительство жилья, нужно было иметь среднемесячную зарплату 20 миллионов рублей. Где это видано?!

Экономика Беларуси, как и ранее, почти не растет. Ей велено прибавлять на 8,5%, но вот прошли два месяца, а ВВП из 3% не "выпрыгивает". Вместо 7% промышленность в январе показала только 0,4%. В текущем году страна ежемесячно должна экспортировать продукции на 4,5 миллиарда долларов, а за январь вышло только 3 миллиарда. Как результат, за январь сальдо внешней торговли Беларуси, по данным Нацбанка, осталось положительным и составило 142,6 миллиона долларов, но это на 71,3% меньше по сравнению с таким же месяцем прошлого года. А вот по товарам уже возникло дефицитное сальдо в минус 86,7 миллиона долларов против плюс 343,5 миллиона в январе 2012 года.

Плохо отражается на росте белорусского ВВП и снижение поставок российской нефти. За январь—февраль они снизились по сравнению с аналогичным периодом прошлого года на 3%. Причем в феврале было поставлено на 9,8% меньше, чем в январе. Очередные переговоры с российской стороной в марте на уровне вице-премьеров по нефтяному балансу ничего не дали.

Поэтому и давили на Нацбанк: снижайте ставку рефинансирования. Тогда снизят, как водится, свои кредитные проценты и коммерческие банки, кредитные шлюзы откроются, экономика враз оживет и понесется. Это, конечно, образное упрощение. Кредиты Нацбанка и коммерческих банков — это безналичная денежная масса, которая потом частично трансформируется в наличную. И если она, рублевая денежная масса, начнет безудержно расти, как это не раз бывало, то ледоход инфляции нас снова снесет, и курс рубля мы не удержим. Ведь удерживается он сейчас, по сути, за счет кредитов Антикризисного фонда ЕврАзЭС. Считай, российских денег. А должен удерживаться за счет положительного сальдо торгового баланса страны, которое пополняет золотовалютные резервы государства. В этом смысле белорусский рубль всегда переоценен к мировым валютам: не будет внешних займов — и он сорвется в девальвацию. Начиная с Нового года, золотовалютные резервы понемногу сокращаются. К тому же по итогам февраля они уменьшились на 12,8 миллиона долларов и на 1 марта составили 8011,8 миллиона.

Это все понимает правительство. Например, рублевая и валютная массы по прогнозу на этот год должны возрасти лишь на 19%. Сравните: за прошлый год только рублевая масса увеличилась более чем в 1,5 раза. Объемы кредитования экономики должны увеличиться на 20%, но в прошлом году близкий к этому умеренный показатель роста был перекрыт почти в 2 раза. Запланирован и рост производительности труда по ВВП на 9,3% против роста реальной зарплаты на 7,1%. Однако, как показывает практика, это все и раньше оставалось только на бумаге. Желание экономических властей большинство проблем решать с помощью печатного станка остается неистребимым.

Почему Нацбанк так долго держался за ставку рефинансирования? Потому что инфляция никак не уймется. Вместо того, чтобы каждый месяц быть в пределах хотя бы 1%, за январь цены на потребительском рынке выросли на 3%, а за январь—февраль — на 4,3%. К концу года инфляция запланирована 12%. С такими темпами мы никак не уложимся в прогноз. Поэтому у аналитиков и возникают вопросы: не рано ли Нацбанк снизил ставку рефинансирования? Может, надо было не сразу на 1,5%, а хотя бы на 0,5%? И отслеживать ситуацию. Ведь первичный наш источник роста инфляции — опережающий в разы динамику производительности труда рост зарплаты белорусов. Этот серьезнейший дисбаланс экономики пока остается. Что называется, по-прежнему живем не по средствам. А к концу года красуется новый рубеж — вместо вчерашних зарплатных 500 долларов в эквиваленте даешь среднемесячную получку в 600 долларов! Какие для этого экономические предпосылки? Только старые проверенные — административные. Чем это заканчивается — мы уже хорошо знаем. Отсюда снижение главным банком после долгой паузы ставки рефинансирования многие наблюдатели расценивают как начало размягчения доселе относительно жесткой монетарной политики денежных властей.

Можно поискать и другие предпосылки роста. Действительно, экономика Беларуси давно нуждается в масштабной модернизации, которая должна идти как непрерывный процесс совершенствования техники и технологии, а главное — производственных отношений. Но не должна быть кампанейщиной. На серьезную модернизацию нужны серьезные деньги в виде валюты, которых внутри страны нет. Которых, по подсчетам правительства, для начала необходимо не менее 3 миллиардов долларов. Но приобретение новой техники, станков и оборудования, естественно, за валюту сразу ухудшит торговый баланс, а отдача от инвестиций будет не сразу. Что опять-таки, как заколдованный круг, создаст дополнительные риски девальвации рубля. Для финансирования модернизации необходимо разморозить процесс приватизации и продать на миллиарды долларов госактивов, но доминирование госсобственности, как известно, основа любой авторитарной власти. Надо дать волю частному сектору. Не для виду, а по-серьезному. Что, как показывает время, тоже не вписывается в генеральную линию. Так, сегодня на повестке дня белорусских законодателей вопрос о введении владельческого надзора со стороны государства даже в тех акционерных обществах, где его доля вообще отсутствует.

Как сообщили некоторые СМИ, на очередное заседание Высшего госсовета Союзного государства России и Беларуси, которое состоится в Санкт-Петербурге сегодня, глава Беларуси поехал с проектом соглашения о выделении Россией госкредита Беларуси в сумме 2 миллиардов долларов на цели модернизации белорусской экономики. Погасить, если дадут, обязуемся до 2027 года. Свои цели Александр Лукашенко, кажется, видит неизменными: выбивать любыми путями из Кремля финансовую помощь и ставить взаимоисключающие задачи для правительства-канатоходца, которое должно суметь балансировать между темпами роста и удержанием финансовой стабильности. Ведь известные российские политические предпосылки "процветания" экономики Беларуси всегда остаются.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## *А што з 3 мільярдамі рублёў?*

***ААТ "Беларуськалій" перадае абавязацельствы па пенсіённым страхаванні дзяржаўнаму прадпрыемству "Стравіта".***

Прэс-служба канцэрна "Белнафтахім" распаўсюдзіла інфармацыю, што гэта мера ажыццяўляецца *"ў мэтах выканання даручэнняў кіраўніка дзяржавы і Савета міністраў канцэрнам "Белнафтахім" і Міністэрствам фінансаў з улікам выканання інтарэсаў страхавальнікаў, застрахаваных асоб і дзяржавы"*. З красавіка сваіх працаўнікоў "Беларуськалій" будзе страхаваць ужо ў дзяржаўнай страхавой арганізацыі "Стравіта".

Такая паспешлівасць кіраўніцтва "Беларуськалія" не выпадковая. Як вядома, 1 сакавіка на пасяджэнні Савета міністраў старшыня Камітэта дзяржкантролю Аляксандр Якабсон паведаміў, што значныя дзяржаўныя сродкі накіроўваюцца буйнымі прадпрыемствамі, у тым ліку "Беларуськаліем", на добраахвотнае страхаванне дадатковай пенсіі ў прыватную страхавую кампанію "Беларускі народны страхавы пенсіённы фонд", "якая размяшчае іх на дэпазітах у банках, а атрыманыя ад гэтага даходы выкарыстоўваюць у асабістых інтарэсах акцыянеры гэтага таварыства (дырэктар і яе муж, а таксама некаторыя іншыя камерцыйныя структуры). Так, сярэдняя зарплата дырэктара ў 2012 годзе складала 30 млн рублёў, а атрыманыя дывідэнды мужа і жонкі за год склалі амаль 3 млрд рублёў".

Лукашэнка абурыўся: *"Тры мільярды! Адкуль гэтыя грошы? Яны што, калійныя ўгнаенні вырабляюць і прадаюць? Не. І бездапаможны Мінфін!"* — і запатрабаваў да канца сакавіка *"навесці ў гэтым пытанні парадак"*. *"Вазьміце на кантроль, каб грошы гэтыя, дывідэнды, укладзеныя ў асабнякі і іншае, былі вернуты. Думаю, вы гэта вырашыце на працягу першага квартала"*, — даручыў ён старшыні КДБ Валерыю Вакульчыку. У адваротным выпадку *"Кірыенку — у камеру, а следам — міністра"*, распарадзіўся Лукашэнка, маючы на ўвазе кіраўніка "Беларуськалія" Валерыя Кірыенку і кіраўніка Мінфіна Андрэя Харкаўца.

Першы крок зроблены. А што з 3 мільярдамі рублёў?

РЭЦЭПТ

## *Прымусовае лячэнне ад алкагалізму вяртаецца?*

*Начальнік аддзела ўпраўлення прафілактыкі МУС **Валерый Мялешка** заявіў, што рыхтуюцца змены ў Закон "Аб парадку і ўмовах накіравання грамадзян у лячэбна-працоўныя прафілакторыі і ўмовах знаходжання ў іх".*

Калі папраўкі, якія прапануецца ўнесці, будуць прынятыя, то наркалагічных хворых будуць лячыць прымусова. Для таго, каб трапіць у ЛПП, дастаткова будзе тры і больш разоў прагуляць работу з-за п'янства.

Цяпер рашэнне, лячыцца ці не ад алкагалізму, чалавек прымае сам. Лячэнне такіх хворых прыраўноўваецца да лячэння звычайных пацыентаў у стацыянары. Ніхто прымусова ў ЛПП пацыентаў не накіроўвае. Каб трапіць у лячэбна-працоўны прафілакторый, трэба быць злосным парушальнікам правапарадку. Згодна з заканадаўствам, у ЛПП сёння накіроўваюцца толькі хранічныя алкаголікі, наркаманы і таксікаманы, якія на працягу года тры і больш разоў прыцягваліся да адказнасці за ўчыненне адміністрацыйных правапарушэнняў у стане алкагольнага ап'янення.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ТЫМ ЧАСАМ

## *Продаж каньяку і брэндзі павялічыўся*

Алкагольныя напоі — лідары продажу сярод прадуктаў.

Белстат паведаміў, што ў студзені—лютым гэтага года насельніцтва больш купіла і харчовых прадуктаў, і алкагольных напояў, і тытунёвых вырабаў, чым за такі ж перыяд летась. Першы радок у гэтай статыстыцы займае продаж каньяку, каньячных напояў і брэндзі, якія павялічыўся на 47,1%. На другім месцы агародніна — рост склаў 29,2%. Далей ідуць дзіцячае харчаванне — продаж павялічыўся на 28,6%, рыба, ракападобныя і малюскі — на 24,3%, вінаградныя віны — на 17,2%, кандытарскія вырабы — на 13,9%.

ЗА КУЛИСАМИ

# Зачем ТЮЗу сусальное золото и китайцы?

*К 3 июля фасады Театра юного зрителя освободятся от лесов, и в здании полным ходом пойдут отделочные работы. Зритель увидит уникальные росписи на "политические темы".*

Вопрос в заголовке про золото, конечно же, риторический. Театр — это априори высота и торжественность, это олицетворение духа нации, и на отделке такого помещения лучше не экономить. Но "политику" как символ прошлого в детском театре решили тоже оставить.



### «Салют Победы» — уникальная фресковая живопись

Надо сказать, на отделке интерьеров ТЮЗа заказчик не мелочился. Главный детский театр будет по-взрослому дорогим, богатым. В этом году заканчивается его реконструкция. Если известно, что внешний вид здания не изменится (а только продлится пристройкой, зеркальной той, что стоит справа), то каким предстанет перед нами оно изнутри?

Архитекторы постарались сохранить всю его бывшую отделку — вплоть до идеологических фресок. Но стоило ли так дрожать над лепниной 1950-х, над "излишествами" сталинского времени? В конце концов, этот декор был довольно типичным.

Научный руководитель реконструкции архитектор **Татьяна Константиновна КУЦЕПАЛОВА** не поддержала мои сомнения. Она высказалась определенно:

— Атмосферу 1950-х надо было сохранить обязательно! Аналога ТЮЗу в Минске нет. В создании его декора участвовало много известных архитекторов середины XX века, и внутренние отделки в этом здании, как ни в одном другом послевоенном доме, имеют определенную ценность. Один купол чего стоит! В исторических справках его роспись идет под названием "Салют Победы". Там в каждом фрагменте росписи представлено по одной национальности — и так все народы, населяющие СССР. И — китайцы! Вы удивлены? Своеобразный "салют", не правда ли? Но вспомните историю: в 1950-х был самый пик дружбы СССР и Китая — что называется, "навек". Перед нами стоял вопрос: "дружбу народов" оставлять или нет? Единогласно решено: оставляем! Это историческая роспись. Много дружбы. А вот вождей там не было.

Этот купол стоит над так называемым Елочным залом. Наверное, немногие помнят его роспись, так как последнее десятилетие Елочный зал использовался в театре как вторая сцена, и для постановок потолок закрывался тентами. Но после реконструкции статус Елочного зала — зала для новогодних праздников — будет возвращен. Чтобы установить настоящие цвета фресковой живописи на куполе, делались химико-физические исследования по слоям.

### Цвет, свет и барельефы

— В старом интерьере ТЮЗа использовалось много искусственного мрамора, — продолжала Татьяна Константиновна. — Сейчас эта техника не применяется, она дорогостоящая. Проще облицевать настоящим камнем, чем разрисовывать прожилки специальным составом, слоями его накладывать и затем полировать. Такой альфрейный (расписной) мрамор — это не советское изобретение, а очень и очень давних времен. Наши реставраторы попытались его возродить: в Несвижском замке один зал сделан в этой старинной технике и в Гомельском замке Паскевичей. Хорошая штука. Но, повторяю, получается дорого и технологически трудно.

Вы спрашиваете про цвет. Чтобы установить, каким он был первоначально в каждом помещении, мы брали со стен, с колонн пробы, а затем делали их спектральный анализ. Например, базовый цвет зала — в переводе на современные доброкачественные краски — в желтоватых тонах. А кресла в зале будут по-детски яркие — рыжие. Как и занавес. Выбрана дорогая качественная ткань.

В зале много лепнины. Мы ее теперь расчищаем, догипсовываем, где требуется. Она будет белая, кое-где позолоченая. После войны, когда здание восстанавливалось, использовалась "золотая" краска. А мы возьмем сусальное золото — его по проекту довольно много. Но в процессе работ будем смотреть: надо ли его столько? Сколько всего граммов? Ну, знаете, оно настолько тонкое, что даже взять его пальцами невозможно — только беличьей кисточкой! По толщине сусальное золото выглядит, как сгоревший листочек бумаги перед тем, как рассыпаться в прах.

Новые люстры заказываем на Лидском заводе "Каскад". Те светильники, что дошли до нас, простоваты. Меняем также все двери, причем используя рисунок старых, еще довоенных, — они будут дубовые с точеной круглой розеткой, — пообещала архитектор Куцепалова. — С довоенных времен в ТЮЗе сохранились и композиции на лестницах — гипсовые барельефы из жизни пионеров. Их тоже, как и "Салют Победы", решили оставить. Реставраторы уже расчистили их от многочисленных покрасочных слоев. Потом оденем эти барельефы в мраморную раму.

* * *

К сожалению, показать читателям картинки будущих интерьеров пока невозможно: они, как и вся документация, существуют лишь в технических чертежах. Возможно, это и неплохо — разогреет наши ожидания. Тем более что осталось максимум полгода, и можно будет делать первые снимки интерьеров. Ну, а первые спектакли на сцене "нового" ТЮЗа? О точных сроках не будем загадывать. Зато мы знаем, какой спектакль труппа приготовит к открытию — "Синюю птицу" по пьесе М.Метерлинка.

К СЛОВУ

## Кто следующий?

ТЮЗ — последняя государственная театральная стройка в столице на сегодняшний день. Который год уже блистает в городе отреставрированный Большой театр, готовится к встрече со зрителями Купаловский (и наше терпение, признаться, уже на исходе)... И вроде лишь Национальный академический драматический театр имени Горького — так называемый Русский театр — остался без реконструкции, без многомиллионного внимания строителей и государства. Но, позвонив его директору **Эдуарду Ивановичу Герасимовичу**, мы узнали, что и его администрация не спит в шапку. В театре готовится проектно-сметная документация на ремонт сценического комплекса, которая через несколько месяцев будет отдана в Министерство культуры. С тем, чтобы приступить к реконструкции в 2014 году.

— Свет, звук, сцена — вот что будет реконструироваться. Это главное. А актерские гримерки? Нет, их ремонтировать пока не надо, мы обойдемся без модных ныне душевых кабин. Это все, на мой взгляд, "понты". Лейте воду дома через счетчик. А в театре надо быть скромнее. Тем более что в каждой гримерке есть умывальник, а душевая — на этаже.

**Елена МОЛОЧКО.**

У СУСЕДЗЯЎ

## *Еўрапейскі Саюз дае 1800 еўра кожнаму паляку*

*Польшча атрымае амаль 106 мільярдаў еўра, у пераліку гэта больш за 1800 еўра на кожнага грамадзяніна Польшчы, — паведаміў міністр па еўрапейскіх справах **Пётр Серафін**.*

Ён патлумачыў, што гэтая сума выдзелена Польшчы ў бюджэце ЕС на 2014—2020 гады. Польшча атрымае з агульнага бюджэту найбольш сярод усіх краін-сябраў ЕС.

Міністр рэгіянальнага развіцця **Эльжбета Бенькоўска** дадала, што новыя сродкі ЕС у асноўным будуць выдзяляцца прадпрымальнікам. Яна спадзяецца, што гэтыя сродкі пойдуць таксама на паляпшэнне супрацоўніцтва паміж ВНУ і прадпрыемствамі.

Многа грошай будзе прызначана на развіццё транспарту, перш за ўсё чыгункі, і на энергетыку. Прадугледжана таксама спецыяльная праграма для ўсходняй часткі Польшчы.

Міністр Бенькоўска адзначыла, што даплаты ЕС вельмі дапамаглі Польшчы ў часы крызісу.

РЭГІСТРАТУРА

## *Прыватным цэнтрам дазволяць выдаваць бальнічныя лісты*

*Міністэрства аховы здароўя, мяркуючы па ўсім, усё ж такі дазволіць прыватнікам выдаваць бальнічныя лісты. Але не ва ўсіх выпадках і не ўсім прыватным цэнтрам.*

Як вядома, у апошні час заявы чыноўнікаў ад медыцыны з гэтай нагоды гучалі супярэчлівыя. Кропку, варта спадзявацца, паставіў начальнік Галоўнага ўпраўлення арганізацыі медыцынскай дапамогі Міністэрства аховы здароўя Беларусі **Іван Рыжко**. Ён заявіў, што ўжо ў гэтым годзе прыватныя цэнтры змогуць выдаваць лісткі непрацаздольнасці пацыентам і цяпер якраз ідзе падрыхтоўка адпаведных дакументаў.

Аднак Іван Рыжко прызнаўся, што не ва ўсіх выпадках урачы прыватных цэнтраў змогуць выпісваць бальнічныя лісты. Атрымаюць гэта права толькі буйныя медыцынскія цэнтры.

— Выдаваць лісткі непрацаздольнасці камерцыйныя цэнтры змогуць не ва ўсіх выпадках, — растлумачыў Іван Рыжко. — Звычайна бальнічны выдаецца па сямі пазіцыях: у выпадку траўмы, каранціну, пратэзіравання, па хваробе, па цяжарнасці, па доглядзе за хворым і для санаторна-курортнага лячэння. Прыватныя тэрапеўты змогуць выдаваць бальнічныя толькі па трох: па хваробе, па траўме і па доглядзе за хворым. І на любы тэрмін — хоць на пяць, хоць на 120 дзён — да поўнага выздараўлення альбо моманту надыходу стойкай непрацаздольнасці. Пакуль гаворка ідзе пра буйныя цэнтры.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

СПРАВЫ ЗЯМНЫЯ

## *На мітрапаліта Філарэта паскардзіліся ў пракуратуру*

*Аўтарам скаргі выступіў старшыня ГА "Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры" **Антон Астаповіч**.*

Ён просіць пракуратуру Мінска прыцягнуць праваслаўнага мітрапаліта да адміністрацыйнай адказнасці. Прычынай звароту ў пракуратуру стала тое, што паўтара месяца няма ніякай рэакцыі на афіцыйны ліст, які таварыства аховы помнікаў накіравала ў экзархат Беларускай праваслаўнай царквы на імя Філарэта 24 студзеня.

У лісце прапаноўвалася пазначыць месца, на якім раней знаходзілася царква Уваскрэсення Хрыстова ў раёне Ракаўскага прадмесця на сучаснай вуліцы Вызвалення. Абаронцы помнікаў хацелі ўшанаваць гэтае месца, пазначыўшы контуры плану царквы каменем, пліткай або кветнікам.

На думку Астаповіча, не адказваючы на афіцыйны ліст, экзархат парушыў закон пра звароты грамадзян. А ён гарантуе афіцыйны адказ на пісьмовыя запыты ў адведзены законам тэрмін.

ЧУЛІ?

## Чакаць дэнамінацыі?

***Кіраўнік Нацыянальнага банка Беларусі Надзея Ермакова лічыць мэтазгодным правядзенне дэнамінацыі ў 2014 годзе. Але пры ўмове, што інфляцыя ў 2013 годзе ўтрымаецца на ўзроўні 12%.***

*"Я думаю аб дэнамінацыі, але пакуль інфляцыя не дазваляе гэта зрабіць. Калі ў нас будзе інфляцыя на канец года на ўзроўні запланаванай, то аб дэнамінацыі ўжо можна будзе казаць", — сказала Надзея Ермакова. Разам з тым кіраўнік Нацбанка звярнула ўвагу, што яна не адна прымае рашэнне аб дэнамінацыі. "Дэнамінацыя — гэта сур'ёзнае пытанне", — дадала яна.*

